Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

10–16 красавіка 1999 года
№ 15 (173)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 8000 руб.
Цана ў розніцу — 12000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

**НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ**

## Бюджэт трашчыць па ўсіх швах

**ІВАЦЭВІЧЫ**. Бюджэт поўны і ў той жа час пусты. Так можна характарызаваць раённы бюджэт, хаця лічбы выканання яго заўсёды вышэй ста працэнтаў. У бюджэце пастаянна не хапае грошай. Пайшлі затрымкі з выплатай зарплаты бюджэтнікам. Таму мясцовая вертыкаль шукае крыніцы папаўнення бюджэту. Як вынік, на свет з'яўляюцца рашэнні райсавета аб устанаўленні падатку на рэкламу, на прамысловую нарыхтоўку дзікарастучых раслін, грыбоў, ягад, тэхнічнай і лекавай сыравіны расліннага паходжання.

І яшчэ адно рашэнне райсавета нядаўна нарадзілася на свет — аб мэтавым зборы на ўтрыманне дзіцячых дашкольных устаноў. Цікава, што стаўка збору ўстанаўліваецца ў памеры пяці працэнтаў да фонду аплаты працы і адносіцца на сабекошт.

Ці дапамогуць гэтыя рашэнні вырашыць праблему недахопу грошай, пакажа час. Але ўжо сёння зразумела, што становішча з кожным днём пагаршаецца, і бюджэт, як кажуць, трашчыць па ўсіх швах.

## Члены БПСМ сталі льготнікамі

**ІВАЦЭВІЧЫ**. Па распараджэнні дырэктара камбіната бытавога абслугоўвання насельніцтва В. В. Цеслюка фатографы Івацэвіцкага Дома быту асвойваюць новую льготу. Члены БПСМ, калі сюды прыходзяць фатаграфавацца, плацяць на 10 працэнтаў менш, чым несаюзная моладзь і ўсе астатнія грамадзяне. Маладыя, здаровыя і зухаватыя хлопцы і дзяўчаты сталі льготнікамі. Мо з імі нешта здарылася? Мо захварэлі на небяспечную хваробу?



Ці мо незвычайнай дабрынёй начальства КБА можна растлумачыць далучэнне бэпэсэмаўцаў да льготаў? Калі прытрымлівацца гэтай логікі, дык 10-працэнтную скідку можна зрабіць і для ветэранаў вайны, і для інвалідаў, і для пенсіянераў — самай неабароненай часткі нашага насельніцтва, што апынулася за мяжой беднасці.

*І. ЯСТРАБАЎ.*



## ХРЫСТОС УВАСКРЭС. ЁН ЖЫВЕ Ў НАШЫХ ДУШАХ

*Заўтра праваслаўныя вернікі адзначаюць сваё галоўнае свята — Уваскрашэнне Хрыстова. Заўтра людзі панясуць у царкву хлеб і соль, булкі, яйкі, кілбасы, каб на святочным стале была свянцонка.*

*Вестка пра Уваскрашэнне Госпада і Збавіцеля нашага Ісуса Хрыста напаўняе нашыя сэрцы бязмернай радасцю як у гэты блаславёны дзень, так і ў кожнае імгненне нашага зямнога быцця. У любых жыццёвых цяжкасцях мы пакліканы быць не назіральнікамі, а стараннымі ўдзельнікамі духоўнага ўваскрашэння нашай зямной Бацькаўшчыны.*

*І мы зноў, радуючыся, славім Госпада Уваскрэслага і вітаем адзін аднаго і ўсіх велікодным сімвалам нашай веры:*

*Хрыстос уваскрэс! Сапраўды ўваскрэс!*

# ЦІ ПРЫМЕЦЕ ВЫ ЎДЗЕЛ У ВЫБАРАХ 16 МАЯ?

***У палітычным жыцці Беларусі намецілася нейкае ажыўленне: апазіцыйныя сілы, кіруючыся Канстытуцыяй 1994 года, рыхтуюцца да выбараў прэзідэнта ў 1999 годзе. З другога боку, кіраўніцтва дзяржавы, кіруючыся вынікамі рэферэндуму 1996 года, які, дарэчы, не прызнала ніводная краіна ў свеце (акрамя Расіі) заяўляе, што аб ніякіх выбарах у гэтым годзе не можа быць і размовы, што гэта ўвогуле правакацыя з боку апазіцыі. А, дарэчы, як самі людзі адносяцца да гэтых палітычных пертурбацый? Вось якія адказы на пытанне, пазначанае ў загалоўку, мы пачулі на вуліцах г. Бярозы.***



**ВІТАЛЬ:** Я ведаю, чуў пра гэтыя выбары, але прымаць удзел у іх не збіраюся. Акрамя А. Лукашэнкі, не бачу ніякіх іншых дастойных палітыкаў. І ўвогуле якія могуць быць выбары? Па Канстытуцыі яны павінны быць у 2001 годзе. Тыя горапалітыкі, хто баіцца, што пра іх забудуцца, каламуцяць толькі ваду, так бы мовіць, у нашай рэспубліцы. Нічога яны не даб'юцца, адно людзей пацешаць.

**СЛАВА**: Чуў, чуў. За каго буду галасаваць? Яшчэ не ведаю. Апошнім часам жыццё наша сапсавалася, і я страціў да нашага кіраўніцтва тую павагу, якую меў раней. Улады кажуць, што вось у нас маленькая кватэплата — два долары толькі. Але ж паглядзіце, якія цэны на прадукты! На шэсць мільёнаў хіба пражывеш. Калі ўсе пойдуць галасаваць за прэзідэнта, то і я пайду. За каго аддам свой голас? Яшчэ падумаю.

**ГАННА АНДРЭЕЎНА:** Пайду і прагаласую за аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты — ці то за Чыгіра, ці за Пазьняка. Надакучыла гэтае бясконцае падзенне ў бездань. Бо так кепска, як зараз, я ніколі не жыла. І гэта пры тым, што столькі абяцанкаў, клятваў мы чулі ў 1994 годзе, што думалася: можа ў 1999 мы ўвогуле будзем жыць нібы ў раі. А што маем на самой справе? І ўсё шукаюць нейкіх вінаватых, кагосьці ловяць, а жыццё мяняецца якраз у горшы бок.

*А. ГОРБАЧ, А. ГАНЧУК (фота).*

*ВЫБОРЫ В МЕСТНЫЕ СОВЕТЫ*

## КТО ВЫБОР СДЕЛАЛ, КТО ЗАБЫЛ...

**ПРУЖАНЫ**. Выборы признаны несостоявшимися по трём округам: Пружанско-Маяковскому, Слобудскому и Клепачскому. Во всех остальных избраны депутаты. Участие в выборах приняло 67 процентов избирателей от списочного состава.

**БЯРОЗА**. Пакуль афіцыйных даных па выніках выбараў няма, аднак можна ўжо сказаць, што сваімі прадстаўнікамі ў абласны Савет жыхары раёна выбралі нам. старшыні аблвыканкама М. П. Еўтуха і старшыню праўлення Бярозаўскага райпа М. Х. Кузьмінчук.

Па-за ўвагай выбаршчыкаў засталіся прадстаўнікі КПБ і ПКБ. Хоць камуністы вылучаліся на альтэрнатыўнай аснове, аднак ніхто з іх не прайшоў у органы мясцовай улады.

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Па папярэдніх даных, у галасаванні бралі ўдзел больш за 80 працэнтаў выбаршчыкаў, занесеных у спісы.

У Брэсцкі абласны Савет ад раёна абраны загадчык гінекалагічнага аддзялення цэнтральнай раённай бальніцы С. П. Бадзей (Івацэвіцкая выбарчая акруга) і старшыня камітэта працы Брэсцкага аблвыканкама Ф. І. Клюкач (Косаўская выбарчая акруга). Па Целяханскай выбарчай акрузе ніхто з кандыдатаў не набраў пэўнай колькасці галасоў, таму тут 18 красавіка адбудзецца паўторнае галасаванне.

У выніку першага тура ўжо сфарміраваны раённы Савет: з 37 дэпутацкіх месц 34 ужо вядомыя. Трох дэпутатаў пазней назавуць у дзвюх акругах падчас паўторнага галасавання і ў адной — падчас паўторных выбараў увосень.

Сенсацыяй раённага маштабу стаў правал на выбарах старшыні цяперашняга райсавета М. М. Валковіча. Ён не набраў патрэбнай колькасці галасоў падчас першага тура і давядзецца яму яшчэ раз паспрабаваць свайго шчасця падчас другога.

Асаблівай ажыўленасці на выбарчых участках не назіралася. Выбаршчыкі перш чым атрымаць бюлетэні касавурыліся, дзе гэта буфет, каб паглядзець, мо там танныя прадукты з'явіліся.

*(Працяг тэмы на 2-й старонцы).*

## Парушэнні былі

Паводле даных Брэсцкай абласной выбарчай камісіі, 4 красавіка ў выбарах узялі ўдзел 69,2 працэнта жыхароў вобласці, якія маюць выбарчае права.

У Брэсцкі абласны Савет у 62 акругах былі абраныя 49 дэпутатаў — гэтага дастаткова, каб Савет лічыўся правамоцным. У адной выбарчай акрузе выбары ў аблсавет не адбыліся з-за нізкай яўкі выбаршчыкаў, у трох — ніхто з прэтэндэнтаў не набраў патрэбнай колькасці галасоў. Такім чынам, у 13 акругах будзе праведзены дадатковы тур галасавання па выбарах у Брэсцкі абласны Савет.

Гарадскі Савет належным чынам сфарміраваны толькі ў Кобрыне.

У Брэсце з 40 неабходных абраны толькі 17 дэпутатаў, у Баранавічах з 36 — 14, у Пінску з 30 — таксама 14. У большасці гарадоў вобласці трэба будзе правесці другі тур галасавання. Выбары ў пасялковыя і сельскія Саветы Брэстчыны былі практычна безальтэрнатыўнымі і прайшлі найбольш арганізавана: усе Саветы сфарміраваныя.

Грамадскія назіральнікі адзначылі шэраг парушэнняў закона "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь".

Самым распаўсюджаным з іх стала парушэнне артыкула 53 закона, які абвяшчае, што галасаванне за іншых асоб не дапускаецца: многія ішлі на ўчасткі з пашпартамі ўсёй сям'і, каб аднаму прагаласаваць за ўсіх.

*(БелаПАН).*

**Падборку "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: С. Кажадуб, Л. Цалуйка (Івацэвічы), С. Русецкі (Бяроза), прэс-цэнтр МА "Грамадзянскі форум" г. Пружаны і фотакарэспандэнт А. Ганчук.**

*●СОЦИОЛОГИЧЕСКАЯ СЛУЖБА "НОВАК"*

## Кто знает о президентских выборах?







*БелаПАН.*

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Дзяржэпартамент ЗША выказвае заклапочанасць

***Да неадкладнага вызвалення былога прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Чыгіра і да пачатку дыялога з апазіцыяй і іншымі сацыяльнымі групамі, якія выступаюць у абарону дэмакратыі і правоў чалавека заклікаў беларускія ўлады афіцыйны Вашынгтон.***

У заяве прэс-сакратара Дзяржэпартамента ЗША Джэймса Рубіна адзначаецца, што "арышт М. Чыгіра ў кантэксце ўзрастаючага запалохвання прыхільнікаў апазіцыі ў апошнія тыдні накіраваны, як уяўляецца, на ўдушэнне незалежнай думкі і дзеянняў у Беларусі". Спадар Рубін выказаў "глыбокую занепакоенасць развіццём падзеяў у Беларусі". З гэтай нагоды Дзяржэпартамент заклікаў кіраўніцтва рэспублікі "прытрымлівацца сваіх міжнародных абавязацельстваў, уключаючы павагу да свабоды самавыяўлення, прынцыпаў АБСЕ і іншых міжнародна прызнаных правоў". Пачатак дыялога ўладаў Беларусі з апазіцыяй па выхадзе з канстытуцыйнага крызісу, які стаў вынікам рэфэрэндуму 1996 года, змог бы палепшыць палітычную сітуацыю ў краіне, заявіў Джэймс Рубін.

## Уведзены новы збор

***Па распараджэнні Брэсцкага аблвыканкама з 1 красавіка на тэрмінале "Саваўта-Брэст", які абслугоўвае грузавыя аўтамабілі, што выязджаюць за мяжу, уведзены новы збор — за карыстанне аб'ектамі інфраструктуры.***

Згодна з дакументам, за знаходжанне на тэрыторыі тэрмінала парожняга аўтамабіля будзе брацца 5 долараў ЗША ці 10 нямецкіх марак, з гружоных аўтамабіляў — 10 долараў ЗША ці 20 нямецкіх марак. Свае стаўкі прадугледжаны для аўтобусаў і іншых транспартных сродкаў, якія перасякаюць мяжу праз тэрмінал. Плаціць давядзецца не толькі транзітнікам-чужаземцам, але і рэзідэнтам Беларусі, праўда — розныя сумы.

## Новыя цэны на аўтобусныя білеты

***Загадам Міністэрства транспарту і камунікацый з пачатку красавіка ўстаноўлены новыя тарыфы на перавозку пасажыраў па рэгулярных прыгарадных і міжгародніх маршрутах.***

Так, за 1 км праезду давядзецца плаціць у аўтобусах агульнага тыпу — 1600 рублёў, у аўтобусах з мяккімі адкіднымі сядзеннямі — 1800 рублёў.

За папярэдні продаж білета, а таксама за браніраванне бярэцца па 11 тыс. рублёў. Кошт правозу аднаго месца багажу ўстаноўлены ў памеры 20 працэнтаў ад кошту праезду. Пры паездцы ў аўтобусах міжгародніх маршрутаў па тэрыторыі рэспублікі дадаткова бярэцца страхавы збор 2 працэнты ад кошту праезду.

## Ацэнка выбараў АБСЕ

***Кансультацыйна-назіральная група (КНГ) АБСЕ ў Беларусі дала папярэднюю ацэнку прайшоўшым 4 красавіка выбарам дэпутатаў мясцовых Саветаў.***

Адметнай рысай прайшоўшых выбараў кіраўнік місіі Ханс-Георг Вік назваў невялікую колькасць кандыдатаў у дэпутаты. У большасці сельскіх і пасялковых Саветаў было зарэгістравана па аднаму кандыдату на дэпутацкі мандат, у гарадах — па тры кандыдаты на адну выбарчую акругу. Сітуацыя з невялікай колькасцю кандыдатаў, падкрэсліў кіраўнік КНГ, зрабіла на прадстаўнікоў АБСЕ негатыўнае ўражанне. Акрамя таго, Х.-Г. Вік указаў на нізкую выбарчую актыўнасць грамадзян рэспублікі, праяўленую падчас галасавання. Прычыну гэтага ён бачыць у недаверы выбаршчыкаў канстытуцыйным органам, нязначным уплыве прадстаўнічых органаў на ўнутрыпалітычнае жыццё краіны, а таксама ў байкатаванні выбарчай кампаніі шэрагам буйных палітычных партый. Прайшоўшыя выбары былі першай праверкай выканаўчай улады пасля спрэчнага рэферэндуму 1996 года і, як адзначыў спадар Вік, перад імі стаяла задача забяспечыць 70-працэнтную яўку выбаршчыкаў. У выніку, па словах кіраўніка місіі, гэта прывяло да таго, што "мясцовыя выбары з дэмакратычнай працэдуры супрацоўніцтва паміж дэмакратычнымі і іншымі партыямі за кантроль над прадстаўнічымі органамі ператварыліся ў кампанію па забеспячэнні палітычнай падтрымкі дзяржаўных органаў кіравання і іхніх кіраўнікоў".

## Умер лидер оппозиции Геннадий Карпенко

Вице-спикер Верховного Совета 13 созыва, председатель Национального исполнительного комитета Геннадий Карпенко 31 марта был доставлен в городскую больницу скорой помощи с диагнозом "кровоизлияние в мозг". 1 апреля Геннадий Дмитриевич был переведен в 9-ю минскую клиническую больницу, где в тот же день ему была сделана срочная операция по удалению гематомы. Находился в реанимационном отделении и не приходя в сознание 6 апреля умер.

Похороны Геннадия Дмитриевича Карпенко состоялись 8 апреля.

*(БелаПАН).*

# НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

## Людзі тэатр любяць

**БЯРОЗА.** Дванаццаты тэатральны сезон распачаў Народны тэатр гарадскога Дома культуры. Нядаўна ён парадаваў жыхароў райцэнтра прэм'ерай драмы В. Папова "Дарагі падарунак". Гледачоў было шмат нягледзячы на тое, што ўваход быў платны. Як гавораць кіраўнік тэатра Надзежда Кісялёва, святло рампы прыцягвае людзей неадольна, бо нясе радасць, дазваляе хаця б на пару гадзін забыцца пра цяжкія надзённыя клопаты.

*С. РУСЕЦКІ.*

## Нечаканая папулярнасць г. Косава

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Падабенства ў назвах адміністрацыйнай адзінкі Югаславіі, пра якую сёння пачынаецца любая зводка навін свету, і горада ў Івацэвіцкім раёне зрабіла для журналістаў даволі папулярным гэты населены пункт. Апошнім часам яго пачалі наведваць журналісты з цэнтральных беларускіх выданняў, з прыватнасці з газеты "Звязда", а яшчэ на мінулым тыдні ў Косава завітала здымачная група ГРТ. І вось па гэтым канале ў выпуску "Навін" за 3 красавіка быў паказаны сюжэт аб жыцці гэтага горада. Канешне, у такім невялічкім населеным пункце журналістам няма дзе "разагнацца": таму мільгнуў на экране будынак Косаўскага МВА, касцёл, мемарыяльны знак, які сведчыць што гораду 500 гадоў...

Некалькі ж кароткіх інтэрв'ю з жыхарамі гэтага горада сведчаць, што касаўчане без асаблівага энтузіязму глядзяць на падзеі ў аднайменным югаслаўскім краі і з жалем успамінаюць тыя падзеі, якія разгорталіся тут у гады Вялікай Айчыннай.

*А. ГОРБАЧ.*

## Падабраўшы ключ

**БАРАНАВІЧЫ.** Непрыемны сюрпрыз чакаў настаўніцу з Баранавічаў, калі яна вярнулася ў свой дом пасля шасцідзённай адлучкі. Нехта са зlодзеяў, падабраўшы ключ да ўваходных дзвярэй, сцягнуў каляровы тэлевізар "Гарызонт", два дываны, электрадрыль, вязальную машынку, музычны цэнтр і 30 бутэлек каньяку "Аляксандр".

Заява настаўніцы ляжыць у міліцыі. Вартавыя парадку шукаюць аматара чужых прыгожых і шыкоўных рэчаў.

*Л. САШЫН.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Калі патрэбна звярнуцца ў пасольства

***— Алё, гэта "Газета для вас"? Вас турбуе былы вязень фашысцкага канцлагера. Калі ласка, надрукуйце адрас пасольства ФРГ, якое знаходзіцца ў Мінску.***

***Васіль Іванавіч (г. Івацэвічы).***

Шаноўны Васіль Іванавіч! Вашу просьбу мы выконваем. Вось адрас, па якім знаходзіцца пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Беларусі: 220000, г. Мінск, вул. Захарава, 26. Тэлефоны **213-37-52, 213-33-57, 233-42-17.** Часовы Паверaны ў справах спадар **Пётр КОЛЬБ.**

## Адкуль танны хлеб?

***— Каля магазіна ля праходнай хлебакамбіната, што па вуліцы Заслонава, яшчэ зранку выстрайваецца чарга. Там прадаецца нейкі вельмі танны хлеб. Адкуль сёння танны хлеб? Ці не маглі б вы кампетэнтна адказаць на гэтае пытанне?***

***Людміла Рыгораўна (г. Івацэвічы).***

**На пытанне нашай чытачкі адказвае дырэктар Івацэвіцкага КХП А. І. ХВАЙНІЦКІ:**

— Сапраўды, звычайна з 8 гадзін раніцы, як толькі адчыняецца наш магазін, пачынаем продаж хлеба так званых масавых гатункаў па цане 10.300 рублёў. Таму ваша чытачка можа не здзіўляцца чарзе, якая выстрайваецца каля магазіна. Асабіста я, ідучы на працу, часта ў 7.15 бачу ля магазіна людзей, заняўшых чаргу. Выпрабліецца гэты хлеб з аржана-шатравальнай мукі, і па смакавых якасцях ён мала ўступае таму хлебу, што прадаем па цане 23 тысячы за буханку. Але выпускаць многа гэтага хлеба не можам, бо маем на бохане страты каля шасці тысяч рублёў. Затое такі хлеб можа купіць чалавек з нізкімі даходамі.

ВЫБОРЫ В МЕСТНЫЕ СОВЕТЫ

## Кто выбор сделал, кто забыл...

**БАРАНОВИЧИ.** Еще до начала выборов были небезразличные звонки типа:

— Я 18 лет замужем. И вдруг получаю приглашение на выборы на свою девичью фамилию, представляете! И моя 17-летняя дочь будет участвовать в голосовании, разве Закон изменился?

Нет, ничего не менялось, просто списки готовились, как и все у нас делается. Вот и моя коллега, переехавшая полгода назад на новое место жительства, на том избирательном участке не обнаружила себя в списках. Будем считать, что все это мелочи и на итоге голосования они все ж не отразились, ибо выборы, невзирая ни на католическую Пасху, ни на православное Вербное воскресенье, все ж состоялись. По предварительным данным, в голосовании по выборам в районный и областной Советы (на территории района) приняло участие 88,7% избирателей. По всем 40 округам в райсовет и по 2 в областной депутаты избраны.

На территории города по выборам в горсовет и облсовет в голосовании приняло участие 54,75% избирателей. Из 36 округов депутаты избраны в 14, из 6 в областной Совет есть народные избранники в 4. В 16 округах по выборам в горсовет состоится повторное голосование, а в 6 — повторные выборы, которые назначены на 18 апреля.

В нашем городе выборы, вернее, предвыборная компания не обошлась без ЧП. С участка № 33, расположенного в здании дортехшколы, исчезли 40 бюллетеней для предварительного голосования. Именно там среди прочих кандидатов баллотировался и начальник средней школы милиции. Это обстоятельство, увы, не способствовало раскрытию преступления.

*Г. СТРОЦКАЯ.*

## Саванюк прызнаны вінаватым

Ураджэнец Беларусі 78-гадовы Энтані Саванюк — былы паліцэйскі, які служыў гітлераўцам у гады другой сусветнай вайны, — прызнаны 1 красавіка вінаватым па аднаму з двух абвінавачванняў у забойстве мірных жыхароў вёскі Дамачава, што пад Брэстам. Да такога заключэння прыйшлі адзінаццаць прысяжных журы ў ходзе беспрэцэдэнтнага судовага працэсу ў Вялікабрытаніі, які працягваўся восем тыдняў.

Былы паліцэйскі аб'яўлены вінаватым у расстрэле жанчыны яўрэйскай нацыянальнасці, учыненым у верасні 1942 года, праз пяць дзён пасля забойства немцамі паблізу Дамачава 290 прадстаўнікоў мясцовай яўрэйскай абшчыны. Ракавыя для злачынства паказанні па гэтаму абвінавачванню даў Аляксандр Баглай, якому ў той час было 12 гадоў.

*("Звязда").*

СЛУЖБА 01

## Дзеці з запалкамі

Днямі здарыўся пажар у Івацэвічах, на падворку Уладзіміра Рыгоравіча Калдушкі. Гарэў гаспадарчы хлеў. Адбылося здарэнне надвячоркам, калі дарослыя былі ўжо дома і займаліся сваімі справамі. Браты Яўген і Ваня Калдушкі (вучні чацвёртага і трэцяга класаў СШ № 4 г. Івацэвічы) гулялі ў сваім двары, а потым з запалкамі рушылі ў хлеў. Падпаленая там салома загарэлася імгненна. Пажар патушылі прыехаўшыя пажарныя. Акрамя даху, агонь болей не паспеў нічога пашкодзіць. Хлапчукі-свавольнікі прызналіся ва ўчыненым. Але ж ці толькі яны адны вінаватыя ў гэтым пажары? Хіба ж не вінаватыя дарослыя, якія пакінулі запалкі ў даступным для дзяцей месцы, якія зусім не пацікавіліся на працягу пэўнага адрэзку часу, дзе і чым займаюцца іх дзеці?

Пакуль сёлета гэта першы выпадак пажару па віне малых дзяцей. Аднак штогод такія здарэнні складаюць прыкладна 25% ад усёй колькасці пажараў за год. Дорага абыходзіцца грамадству дзіцячыя гульні з запалкамі.

*В. МОЛАШ,*
*ст. супрацоўнік ЦН ППБ АВПС Івацэвіцкага раёна.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

*Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 7.04.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):*

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 340—380 | 460—500 | 350—450 | 360—400 |
| Сала салёнае | 360 | 300—340 | 450 | 320—360 |
| Алей (1 л) | 345—380 | 375—440 | 330—370 | 350—410 |
| Яйкі | 120 | 125 | 150 | 110—130 |
| Малако (3 л) | 60 | 80 | 60 | 60—70 |
| Тварог | 70 | 80 | 80 | 55—75 |
| Масла сметанк. | 320 | 320 | 290—300 | 310—340 |
| Цыбуля рэпч. | 135 | 120—140 | 150 | 140—160 |
| Капуста | 70—80 | 70—80 | 70—80 | 40—60 |
| Бульба | 30 | 30 | 30 | 25—35 |
| Морква | 70 | 60—70 | 50 | 35—45 |
| Часнок | 400 | 500 | 400 | 320—350 |
| Яблыкі | 100—170 | 180—200 | 150—170 | 110—170 |
| Лімоны | 400 | 400 | 420 | 390—410 |
| Апельсіны | 320—360 | 310 | 380 | 330—350 |
| Бананы | 360 | 320—360 | 380—420 | 330—360 |
| Грэчка | 140 | 140 | 140 | 135—160 |
| Макар. вырабы | 110 | 90—110 | 110—120 | 130—140 |
| Рыс | 175 | 180 | 180 | 160—170 |
| Цукар | 135 | 155 | 145 | 155—170 |
| Мёд | 850 | 850 | 850 | 770—830 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ**

**(у тысячах рублёў)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 350 | 380 | 360 | 380 | 350 | 380 | 350 | 380 |
| 1 дойчмарка | 180 | 190 | 180 | 190 | 180 | 190 | 180 | 200 |
| 1 рубель Расіі | 12,5 | 13,5 | 12,5 | 13,5 | 13 | 14 | 12,5 | 13,5 |

● *ЧАЛАВЕК І ЯГО СПРАВА*

# Калі працуеш без фанфар...

***Прыемна адзначыць, што пэўныя зрухі да лепшага назіраюцца і ў наш час. Гэта тым больш прыемна, калі змены адбываюцца ў правінцыі на ніве медыцыны, якая ў нас, на жаль, ніколі не крочыла "впереди планеты всей". Вось і ў г. Белаазёрску, дзякуючы прафесіяналізму мясцовых урачоў, пачалі рабіць складанейшыя аперацыі на катаракту зроку. З загадчыкам вочнага аддзялення ўрачом-акулістам А. В. КАНАНОВІЧАМ гутарыць карэспандэнт "Газеты для вас" А. ГОРБАЧ.***



***— Аляксандр Віктаравіч, скажыце, чым адметная ў лячэнні вочных хвароб Белаазёрская гарадская бальніца. Чаму добрая слава ідзе менавіта аб вашай установе?***

— Адметна тым, што ў Брэсцкай вобласці мы адразу пасля абласнога цэнтра пачалі рабіць аперацыі па выдаленні катаракты, імплантацыі вочнага крышталіка. Падобнае стала магчыма дзякуючы таму, што мясцовыя ўлады знайшлі на найноўшае абсталяванне вялікія грошы. Дзякуй трэба сказаць нашым раённым уладам, асабіста старшыні Бярозаўскага райвыканкама І. М. Малейціну.

***— Чым характарызуюцца вочныя захворванні? Якое адрозненне іх ад іншых хвароб?***

— Па-першае, аперацыя на воку — гэта вельмі тонкая работа. Што казаць, калі таўшчыня рагавіцы, сятчаткі вока складае долі міліметраў. З другога боку, вочныя хваробы асабліва патрабуюць ранняй дыягностыкі. Дастаткова сказаць, што ў сённяшні час атрымалі распаўсюджванне і злаякасныя пухліны вока. Таму вельмі важна своечасова звярнуцца да ўрача. Растлумачу чаму. Злаякасная пухліна вока лічыцца не самым горшым варыянтам, калі параўноўваць з пухлінамі іншых органаў арганізма. Справа ў тым, што рак вельмі марудна распаўсюджваецца цераз зрокавыя сасуды і пры своечасовай дыягностыцы можна выратаваць чалавека, зрабіўшы аперацыю. Рызыка таго, што пухліна дасць метастазы, у такім выпадку мінімальная. А вось калі рак распаўсюдзіцца цераз зрокавыя сасуды, далейшае развіццё яго ідзе вельмі імкліва, непаддаецца прамянёвай тэрапіі, літаральна з'ядае чалавека. Таму калі ёсць нейкія праблемы са зрокам — паспяшайцеся да ўрача.

***— Вашы аперацыі адметны тым, што ідзе замена вочнага крышталіка на штучны. Скажыце, пасля аперацыі ці прыкметны візуальныя адрозненні аперыраванага вока ад здаровага?***

— Пасля аперацыі і перыяду адаптацыі візуальна непрыкметна тое, што чалавек перанёс аперацыю. Дзякуючы высокакласнаму абсталяванню, не буду гаварыць аб нашым прафесіяналізме — хай яго ацэняць пацыенты. Аперацыі праходзяць нармальна.

***— Але ёсць людзі, у якіх адразу прыкмеціш тое, што адно вока ў іх штучнае, другое — не. Да прыкладу, я ведаю хлопца, які прыйшоў з Афганістана, штучнае вока якога вельмі кідаецца, прабачце за каламбур, у вока. Як Вы пракаменціруеце гэта?***

— Па-першае, калі гаварыць пра нашы аперацыі, то, паўтаруся, мы праводзім імплантацыю, замену вочнага крышталіка. Што тычыцца візуальных адрозненняў аперыраванага вока ад неаперыраванага, то павінен удакладніць: аперацыя толькі тады пройдзе паспяхова, калі праходзіць у клінічных умовах. Калі ж у тым Афганістане салдат пацярпеў, мае значнае пашкоджанне і рабіць аперацыю прыходзіцца ледзь не пад абстрэлам, то чакаць выдатнага выніку не прыходзіцца. Як кажуць, на вайне, як на вайне.

***— Многа кажуць зараз пра клініку знакамітага Святаслава Фёдарава. Як хірург, як Вы ацэньваеце працу гэтага спецыяліста?***

— Я асабіста без асаблівага энтузіязму гляджу на тое што робіць зараз Святаслаў Фёдараў. Гэта той выпадак, калі медыцына ператвараецца ў шоу, маскарад, бясконцы рэкламны трук. Ацэньваць жа медыцыну трэба па канечных выніках, якія ёсць. Калі С. Фёдараў усё робіць на добрым узроўні, гэта добра. Але ж той, хто, так бы мовіць, без фанфар працуе ў медыцыне, робіць падобныя аперацыі і мае цудоўныя вынікі, не менш заслугоўвае добрых слоў.

***— А вось пра памутненне крышталіка. Як яно можа ўзнікнуць?***

— Памутненне можа ўзнікнуць і ад генетычных схільнасцяў арганізма. Але адыгрывае ролю і тое, які лад жыцця вядзе чалавек. Непажаданыя перагрузкі арганізма, асабліва ў маладым узросце. Бо катаракта можа ўзнікнуць і ад, прабачце, элементарнага перанапружання на ўнітазе.

***— Ну і трошкі аб сабе, Аляксандр Віктаравіч.***

— Родам я з вёскі Рэчыца Бярозаўскага раёна, працую, такім чынам, на бацькаўшчыне. Закончыў Мінскі медыцынскі інстытут. Працаваў у розных кропках Беларусі.

***— Дзякуй за змястоўную гутарку. Усяго Вам найлепшага.***

— Усяго добрага і "Газеце для вас".

***г. Белаазёрск.***

● *ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ*

***— Вось верне Лукашэнка ядзерную зброю ў Беларусь, тады мы пакажам усім імперыялістам і НАТА сваю сілу! — з гордасцю гаварыў сівы ветэран.***

***— А хіба нам мала Чарнобыля? — не ўстрымаўся другі пасажыр, што сядзеў побач.***

***— Нам жа абараняцца прыдзецца, НАТА ж ля нашай мяжы. Разумееш? — на поўным сур'ёзе працягваў той жа стары. — А Чарнобыль перажывём, гэта дробязь...***

***(З размовы ў аўтобусе).***

# АБЫЯКАВАСЦЬ, ЯКАЯ ГОРШ ЗА ЧАРНОБЫЛЬ

**1.**

Так, для некаторых людзей Чарнобыль — дробязь. Відаць, для тых, хто не паспытаў гэтай дробязі, хто вельмі далёкі ад той бяды і гора, якія прынёс Чарнобыль нашым жыхарам. Чацвёртая частка Беларусі засмечана гэтай смяротнай дробяззю. Хварэюць і паміраюць дарослыя і дзеці. Ратунку па сутнасці эд гэтай нябачнай смерці пакуль што няма. Хіба што тэрміновае адсяленне ў экалагічна чыстыя раёны. А ці заўсёды гэта можна зрабіць? Ці прыносіць наогул нейкае задавальненне людзям такое перасяленне? Як жывуць такія сем'і на новым месцы? Як адносяцца мясцовыя ўлады да былых чарнобыльцаў?

**2.**

А цяпер больш канкрэтна: размова пойдзе пра сем'і Лукоўскіх-Трыбуналавых, што жывуць у горадзе Бярозе.

Да 1993 года гэтыя сем'і жылі ў Чачэрску Гомельскай вобласці. Тэрыторыя, вядома, забруджаная. Жадаючым перасяліцца прадастаўлялася права выбару месца новага жыхарства. Лукоўскія-Трыбуналавы выбралі Бярозу.

Галіна Міхайлаўна Лукоўская (ёй летам споўніцца 82 гады) жыла адна, мела свой дом, гаспадарчыя пабудовы, сад, агарод. Цяжка было старому чалавеку пакідаць усё нажытае. Выдалі грашовую кампенсацыю. Па сённяшніх цэнах гэта сто амерыканскіх долараў.

Людміла Пятроўна, дачка Лукоўскай, са сваёй сям'ёй жыла таксама ў Чачэрску, у двухпакаёвай кааператыўнай кватэры. Кампенсацыя за яе склала каля 135 долараў ЗША. Грошы па сённяшніх мерках зусім мізэрныя. Не толькі кватэры, але і тэлевізара за іх не купіш.

Гэтым дзвюм сем'ям павінны былі даць дзве кватэры, таму што яны пакідалі асобны дом і кватэру ў шматпавярховым доме. Але ўсё перакруцілі. Маўляў, аднапакаёвых кватэр у Бярозе няма, таму трэба прыпісаць маці да сям'і дачкі, каб атрымаць двухпакаёвую кватэру. Не згаджаліся перасяленцы, але ім паабяцалі, што потым пытанне аб асобных кватэрах уладзяць улады ўжо на месцы. Словам, старую жанчыну падсялілі ў кватэру да дачкі з зяцем.

**3.**

Асвоіўшыся на новым месцы жыхарства, Галіна Міхайлаўна пачала дабівацца, каб абяцанае ўрэшце-рэшт збылося. Не можа яна жыць у адной кватэры з зяцем Іванам, не такім чалавекам аказаўся ён, як быў раней. На вачах перамяніўся. А быў жа там, у Чачэрску, такі добры, як гаворыцца, хоць да раны прыкладвай. Праўда, жылі паасобку. Прыходзіў Іван да цешчы, дапамагаў што-колечы. Частавала яго Галіна Міхайлаўна. А вось тут разам ніяк не ўжываюцца. Выганяе зяць з кватэры, хоць не мае ніякага права рабіць гэта. Асабліва агрэсіўны ў дні, калі прыходзіць дамоў на добрым падпітку. Не раз ужо старая жанчына начавала ў падвале. Выклікала на дапамогу і міліцыю. Яны падакаралі трохі таго ж зяця і параілі звярнуцца наконт жылля ў райвыканкам. Але туды Галіна Міхайлаўна наведвалася ўжо неаднойчы.

— Навошта табе, бабка, асобная кватэра? — гаварылі Лукоўскай прадстаўнікі мясцовай вертыкалі. — Хто цябе даглядаць будзе?

— Хачу спакойна да смерці дажыць, — казала Галіна Міхайлаўна.

— Дык у дачкі дажывеце, — раілі вертыкальшчыкі. — Колькі там ужо і засталося...

— Не хавайце мяне загадзя, — не здавалася Лукоўская. — Мой дзед 103 гады пражыў, і я пражыву не менш...

На тым і закончылася размова. Напомнілі яшчэ раз, што сем'і Лукоўскіх-Трыбуналавых забяспечаны кватэрай. Нават нічога не паабяцалі. А потым прыслалі адпіску за подпісам старшыні райвыканкама І. М. Малейціна, што, маўляў, вы забяспечаны жыллём згодна з заканадаўствам.

**4.**

Прыйшла Галіна Міхайлаўна дамоў, паплакала. Розныя думкі ў такі роспачны момант прыходзілі ў галаву. Успаміналася пражытае і перажытае. Была вайна, загінуў муж. Сама ледзь выжыла ў тых жудасных умовах. Пасля вайны выйшла замуж, жыла ў вёсцы. Выгадавала трое дзяцей. І вось на старасці няма, як кажуць, ні кала ні двара. Як жыць далей?

— Выхад ёсць, — раіць зяць Іван. — Разменяем сваю кватэру на дзве аднапакаёвыя. І разыходзімся...

Гэта ўжо ён да сваёй жонкі. А яна, Людміла Пятроўна, не мае намеру разводзіцца з мужам і ісці жыць з маці. Чаму?

Сем гадоў жыцця ў забруджанай зоне далі сябе знаць. Людміле Пятроўне не так даўно зрабілі складаную аперацыю. Працаваць яна не можа, а на пенсію маці не пражывеш. Вось такое становішча. Дарэчы, і мужу Івану нядаўна зрабілі складаную аперацыю, яго здароўе вельмі пагоршылася, але адносін да цешчы не мяняе. Жылі асобна — былі дружалюбнымі, сышліся разам — сталі ворагамі.

Галіна Міхайлаўна вырашыла дабівацца праўды яшчэ ў вышэйшых уладных інстанцыях. Неяк у Бярозе вёў прыём грамадзян намеснік старшыні аблвыканкама. Запісалася на прыём да яго. Выслухаў Лукоўскую абласны чыноўнік і запэўніў старую, што кватэру ці хаця б асобны пакой у інтэрнаце павінны выдзеліць мясцовыя ўлады. Абяцаў паклапаціцца. Паехаў той начальнік, і ўсё засталося па-ранейшаму.

**5.**

Куды ж яшчэ звяртацца? Напісала Галіна Міхайлаўна свой ліст у Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь. Адтуль таксама прыслалі адпіску: **"Выдзеліць Вам паўторна жыллё, пабудаванае за кошт сродкаў на пераадоленне вынікаў катастрофы на ЧАЭС, не прадастаўляецца магчымым".**

Вось так кола і замкнулася. Ні на самым версе ўлады, ні на месцы ў Бярозаўскім райвыканкаме ніхто не звяртае ўвагі ні на скаргі, ні на просьбы старога чалавека. Нікому, аказваецца, ён не патрэбны. Вакол чэрствасць, абыякавасць, нейкае нежаданне нават разбірацца. А згубіла Галіна Міхайлаўна ўласны дом, усё, што мела, не па сваёй віне, а з дапамогай той жа дзяржавы. А пасля ўпіхнулі яе ў тую кватэрную клетку да дачкі і зяця і цяпер адмахваюцца ад старой, як ад той назойлівай мухі.

Кажуць, той, хто не паспрабаваў уласнага гора, ніколі не зразумее чужога. Выходзіць, што чыноўнікі розных рангаў, даючы адказ Лукоўскай, кіраваліся толькі інструкцыямі, зусім не ўнікаючы ў сутнасць справы. А тым часам старая жанчына пакутуе і фізічна, і маральна. Хто ж верне Галіне Міхайлаўне веру ў сённяшнюю ўладу? Ці да канца сваіх дзён яна будзе праклінаць тых, хто сёння па родзе сваіх заняткаў павінен быў паклапаціцца пра яе спакойную старасць?

**6.**

— Калі б ведала, што ўлады ўчыняць нада мной такі здзек, — плачучы гаворыць Галіна Міхайлаўна Лукоўская, — я ніколі б не пакінула Чачэрск...

Сапраўды, старая, проста кажучы, уцякла ад радыяцыі, ад Чарнобыльскай бяды, марыла знайсці ў Бярозе ўтульны прытулак на старасці, а атрымала, на жаль, новы, своеасаблівы Чарнобыль. Чарнобыль абыякавасці, чэрствасці, неразумення, недавер'я.

Які ж Чарнобыль горшы? Той, прыродны, што нябачна і амаль неадчувальна есць чалавека, ці той, людскі, духоўны, што па-жывому з дня ў дзень душыць перасяленца сваімі абяцанкамі, адпіскамі, рэкамендацыямі, інструкцыямі, беднасцю, жабрацтвам...

Таму зразумелыя роспач і шкадаванне Галіны Міхайлаўны. Яна б з радасцю паехала назад у сваю хаціну, але ж яе ўжо няма ў Лукоўскай, як няма тут, у Бярозе, нават уласнага кутка. Ці знойдзецца хоць адна добрая душа, якая дапаможа састарэлай жанчыне?

*С. КАЖАДУБ.*

*г. Бяроза.*

● КРИМИНАЛ

# ЕЩЕ ВЧЕРА У ВАС БЫЛА МАШИНА

Дурную славу лидерства в криминальном мире Барановичи снискали давно. И не из-за каких-то там краж и хулиганов. Город прочно удерживает лидирующие места по тяжким преступлениям. Благодаря своему географическому положению в Барановичах буйным цветом расцвел криминальный автобизнес. Угоны стали просто притчей во языцех для обывателя, а для автовладельцев настоящей бедой.

В прошлом году угнали 59 машин. Вернуть владельцам удалось 13. Этот год едва начался, только и успели прожить, что первый квартал, а уже 14 машин «ушли» в неизвестном направлении. Три кражи удалось раскрыть (по состоянию на 25 марта). Раскрывается, как правило, самое банальное. Ну, угнали подержанную «тройку» 1976 года выпуска, так её и нашли через неделю. Приехал таксист-частник помыться в баню. Пока парился, его «Жигулёнок» уехал кататься с незнакомым дядей, который предварительно прошманал карманы таксиста и извлек из них ключи. Минут эдак через 20 машину уже нашли брошенной во дворе дома по Комсомольской, 5. Но это все из серии так называемых случайных угонов, которых единицы. Криминальный автобизнес — дело серьезное и занимаются им не пацаны.

Чаще угоняют хорошие дорогие машины. И делается это, естественно, не с бухты-барахты. Нужный заказанный автомобиль тщательно отслеживается и, когда наступает удобный момент, уходит. Невзирая на операцию типа «Перехват», перехватить машину не удаётся. Она быстренько угоняется в гараж, отстаивается там энное количество времени и только тогда навсегда уходит из города. Уходит далеко, во-первых. С ведома местной мафии, во-вторых. Мафия,это, конечно, громко сказано, и тем не менее. Преступный автобизнес в основной своей массе организован. Правда, не все, кто на профессиональной основе занимаются розыском угнанного автотранспорта, с этим утверждением согласны. Но с тем, что есть организаторы и исполнители, не согласиться нельзя. И если последние все-таки попадаются, то первых вычислить невозможно. У правоохранительных органов есть информация о преступных группировках, занимающихся угонами и кражами автомобилей. Но вывести на чистую воду, доказать вину непросто, даже невозможно.

— Этот бизнес был, есть и будет. Он на втором месте по доходности после наркобизнеса, — говорит С. Н. Чижевский, сотрудник отдела по организованной преступности, один из четырех в городе оперативных работников, занимающихся розыском угнанных автомобилей и борьбой с таким видом преступлений.

К категории чаще всего угоняемых относятся «Ауди—80» и «Ауди—100», «Фольксваген-Гольф» и «Пассат». Очень редко в эти списки попадают «Мерседесы», «БМВ».

Так уж случилось, что в Барановичах живет большое количество гонщиков автомобилей. Нет, не спортсменов, а тех, кто гонял и гоняет машины из-за границы. Мы — соседи с Польшей, недалеко Германия, Голландия. Вот мужики и зарабатывали деньги. Но в разные времена по разным обстоятельствам в нашем нестабильном государстве менялись законы. Поток автомобилей то увеличивался, то спадал, да и рынок постепенно насыщался. И те, у кого торг не шел, превращались из гонщиков в угонщиков. А что, дело доходное, а ребята эти толк в нем знают, за жизнь некоторые пригнали по несколько сотен автомобилей. Следовательно, как свои пять пальцев знают устройство, знают, как открыть-закрыть без ключа, как завести. Готовые профессиональные воры. Раз их не обеспечило государство достойной работой, нашлись добрые дяди, которые другим дядям дали хороший заработок. Даже если машина угнана для того, чтоб быть разобранной на запчасти, навар все равно будет не мал — от



1,5 до 2 тысяч долларов. И риск меньше: не надо искать спецов, чтоб перебить номер, не надо рисковать в дороге, не надо переделывать документы. Тихонечко в гараже разбирается машина и по запчастям продается на рынке. Номерных деталей нет, а к остальному не подкопаешься: купил, подарили...

Это второй вид автобизнеса — разобрать на запчасти. Есть еще и третий, появившийся не так давно. Возврат вашего автомобиля вам же, но за вознаграждение. Хозяина престижной иномарки попасут, потом авто свистнут, а через некоторое время предложат: забирай свое корыто за штуку-полторы «зелени». И что вы думаете, забирают! А что делать? Стыдно, неприятно платить за свое же, но выхода не видят, либо видеть не хотят. Обстоятельство это не афишируют. Скорее, заявляют: обратился, мол, к преступному авторитету и помогли. Бывает и так. Но извините, кто это для кого сегодня шаг бесплатно ступит, не говоря уж о хлопотах о возврате машины. Денежки вынь да положь! Таким образом машины угоняются либо в результате криминальных разборок, либо так учат зарвавшегося братана.

Недавняя история. У бизнесмена угнан автомобиль. На момент угона за рулем была жена. Она, естественно, пишет заявление в милицию. Сам хозяин появляется часа через два и подает второе заявление. Ущерб в 6 миллиардов рублей для него является незначительным, так что не стоит тратить усилия на поиски. Вывод: господин бизнесмен знал, за какие грехи угнан его автомобиль. И если бы не супруга, то машина никогда не числилась в угоне. И таких, кстати, немало — не считающих нужным заявлять в милицию. Свяжись с органами, себе хуже. Вдруг начнут копать, как на честно заработанные рублики удалось купить такую крутую тачку. Еще чего доброго не до того докопаются. Вот и молчат новые белорусы, им проще новую машину заиметь, чем иметь дело с милицией. А посему статистику угонную корректировать надо.

— У простых людей машины не угоняют, — чуть ли не в один голос заявили сотрудники отдела по организованной преступности С. Чижевский и И. Чудук, — уходят крутые машины крутых людей.

Самое время припомнить киношного Деточкина, потому как о наших барановических деточкиных история умалчивает. А может, это они на прошлый старый Новый год из города увели сразу 5 машин?..

У несвижского перекрестка едва ли не у самого поста ГАИ мостились несколько гаражей. Никто никогда не обращал на них внимания, а когда обратили, то обнаружили там «Ауди-100», похищенную в Березе, еще одну машину с перебитым номером кузова. За год через гараж прошли 6 машин. С хозяина спроса никакого — гараж сдавал в аренду, платили исправно, а какие машины держали, откуда ему знать. А если бы и знал, то все равно молчал бы.

Барановичские гаражи — это особое место и разговор о них отдельный. Особенно о знаменитом массиве в Южном. Его проектировали словно специально для криминального мира. Даже если бы сегодня кто-то очень захотел навести там порядок, ничего бы у него не вышло. Огромный многокилометровый массив без всякого ограждения и хотя бы чего-то, отдаленно напоминающего порядок. Никакие документы сегодня не помогут выявить даже хозяина отдельного гаража. Помещение будет по десять раз сдано в аренду и субаренду, продано, перепродано или вообще бесхозно. Именно в гаражах на Южном укрываются угнанные автомобили, именно там их разбирают на запчасти. И никакой рейд не в состоянии хоть что-либо обнаружить. Чтоб охватить проверкой такой массив, понадобится весь горотдел милиции, включая уборщиц. И результат всё равно будет нулевым.

Сотрудники правоохранительных органов все ж надеются переловить любителей кататься на чужих машинах, но расслабляться автовладельцам не стоит. Им стоит свято блюсти одну истину: ваша машина — ваши проблемы.

***Г. СТРОЦКАЯ.***
***г. Барановичи.***

● ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# Перамог няма. І не будзе?

***Тое, што кіраўнік беларускай дзяржавы ўзяўся уладкоўваць справы ў спорце, вельмі пахвальны момант роднай палітыкі. Хоць і не арыгінальны: большасць краін постсавецкай прасторы ўжо даўно, калі не займаюцца стварэннем толькі палітычнага іміджу кіраўніку, то маюць пэўныя дасягненні ў спорце. Пра безагаворачныя перамогі расійскіх тэнісістаў ці фігурыстаў, украінскіх футбалістаў ці літоўскіх баскетбалістаў сведчаць шмат якія медалі рознай вартасці ў капілцы гэтых краін. Чаго не скажаш пра беларускіх удзельнікаў Алімпіяд у Нагана і Атланце, у шматлікіх чэмпіянатах, турнірах. Акрамя эпізадычнай перамогі беларускіх біятланістаў ды ўмоўнага ўздыму хакейнай зборнай, успомніць, на жаль, няма чаго. Наведванні кіраўніка дзяржавы стадыёнаў, спартыўных залаў не натхняюць спартсменаў, не даюць ніякага плёну. Чаму?***

Спорт — гэта тая галіна, якая ў сучасных умовах дае цудоўную магчымасць заявіць аб сабе як аб прадстаўніках канкрэтнай дзяржавы, нацыі. Трыумфальныя футбольныя перамогі кіеўскага "Дынама" і зборнай Украіны прымусілі ўсю Еўропу са здзіўленнем і ў некаторай ступені з захапленнем і зайздрасцю азірнуцца на гэтую краіну.

Філігранная гульня маскоўскага "Спартака" таксама знайшла шмат паклоннікаў ва ўсёй Еўропе. Чаго ніяк не скажаш, калі назіраеш за гульнёй беларускіх каманд і беларускай зборнай.

Але ж на момант перабудовы наш футбол не выглядаў горш, чым футбол у суседніх рэспубліках. Калі яшчэ з лепшымі клубамі Расіі, Украіны беларусы мелі амаль роўны баланс перамог і паражэнняў, то ў матчах з літоўскімі і асабліва латвійскімі, эстонскімі камандамі беларусы мелі велізарную перавагу. І вось праз дзесяць гадоў усе вышэйназваныя зборныя каманды займаюць у рэйтынг-лісце Еўрапейскай футбольнай асацыяцыі месцы вышэй, чым беларусы. Больш таго, тыя ж і Латвія, і Эстонія маюць перамогі над беларусамі нават у Мінску, што дзесяць год таму нікому і ў галаву не прыйшло б. І гэта пры тым, што беларускі прэзідэнт не прапускае матчы зборнай, асабіста прысутнічае на стадыёне, дае настаўленні. Асабліва ўражвае тое, што ў саставе беларускай зборнай каманды шэраг футбалістаў даволі высокага рангу, ігракоў прэстыжных каманд — "Дынама" (Кіеў), "Лакаматыў", "Спартак". Яшчэ чатыры-шэсць гадоў таму ў нашай зборнай былі хоць рэдкія, але вельмі прыемныя перамогі. Чаго толькі вартая адна перамога над галандцамі — адной з самых тытулаваных і паважаных каманд у футбольным свеце. А зараз, як толькі за справу ў спорце ўзяўся А. Лукашэнка, перамог няма і няма. Чаму?

Апошнім часам неяк заўважаеш, што ва ўсім свеце спорт усё больш і больш робіцца патрыятычным, нацыянальным. Напрыклад, апошнія метры дыстанцыі лыжнікі-пераможцы бягуць са сваім нацыянальным сцягам; спяваюць гімн сваёй дзяржавы перад матчам, паклаўшы на сэрца руку, футбольныя, хакейныя, баскетбольныя каманды.

І тут, калі параўноўваць расійскія і беларускія палітыку і спорт, назіраем вельмі цікавую сітуацыю. У Расіі ідзе ўмацаванне патрыятычных тэндэнцый і ў палітыцы, і ў спорце. У Беларусі тут яўны перакос. З аднаго боку, ідзе планамернае знішчэнне суверэнітэту, патрыятызм разглядаецца як толькі патрыятызм беларуска-расійскага саюза, былога СССР, але не суверэннай, незалежнай Беларусі. З другога боку, ідзе нібыта ўмацаванне нацыянальнага спорту, што (калі створаны расійска-беларускі парламент, агульныя органы кіравання, юрыдычная і эканамічная прастора) выглядае як нонсенс. Сапраўды, чаго так узяўся за беларускі спорт кіраўнік, які, прыйшоўшы пяць гадоў назад да ўлады, назваў суверэнітэт Беларусі адным словам "чапуха"? Можа было б больш паслядоўным стварэнне расійска-беларускіх чэмпіянатаў, турніраў, зборных?

Знішчэнне і знявага беларускасці, на мой погляд, і ёсць галоўная прычына бясконцых паражэнняў беларускіх спартсменаў і дарэмных патуг кіраўніцтва дзяржавы. Смешна сказаць, у Беларусі, нягледзячы на тое, што дзяржаве амаль 10 год, няма свайго гімна. А можа гэта і добра, што беларусы прайграюць, што не трапілі, напрыклад, на футбольны чэмпіянат свету ў Францыі? Бо ўсе 32 зборныя каманды ўсяго свету, нават з самых экзатычных афрыканскіх краін, выходзячы на матч, стоячы перад мільёнамі балельшчыкаў, спявалі свой гімн. Цікава, а што спявала б у такім выпадку зборная Беларусі, у якой, паўтаруся, няма гімна. Можа так і трэба, каб беларусы, гэтыя Іваны, "не помнящие своего родства", прайгравалі ўсім, каб не смяшыць увесь белы свет.

Таму і перажываюць беларускія балельшчыкі то за расійскія, то за ўкраінскія каманды. І зайздросцяць іхнім балельшчыкам. Таму і няма ў беларусаў больш-менш прыкметных перамог у спорце. Гэта натуральна і зразумела. Іх і не можа быць. Рабы і наёмнікі ніколі не становяцца чэмпіёнамі. Яны толькі фон для чэмпіёнаў.

*А. ГОРБАЧ.*

● ПОСТ ДАІ

# Папярэдзіць лягчэй

Гэтая простая ісціна вядома ўсім, асабліва нам, работнікам дзяржаўтаінспекцыі. Таму ўсе нашы мерапрыемствы накіраваны іменна на папярэджанне дарожна-транспартных здарэнняў. З гэтай мэтай у сакавіку праведзены аперацыі "Пераезд" і "Веласіпедыст".

Першая аперцыя праводзілася ў два этапы. На першым было выяўлена 267 парушальнікаў правілаў дарожнага руху, 11 з іх — у нецвярозым стане. Непасрэдна парушылі правілы руху на пераездах 11 чалавек.

На другім этапе гэтай аперацыі выяўленых парушальнікаў пабольшала, іх стала 271. Нецвярозымі былі двое. А вось парушылі правілы руху на пераездзе ўжо 16 чалавек. Кожны з парушальнікаў пакараны, праведзена з імі растлумачальная работа.

Аперацыя "Веласіпедыст" працягвалася толькі пяць дзён. За гэты час выяўлена 422 парушальнікі дарожнага руху, у ліку іх 24 веласіпедысты і пешаходы.

Не сакрэт, што сярод парушальнікаў многа дзяцей. З імі асобная размова. Часта здзіўляешся таму, што дарослыя, везучы на веласіпедах дзяцей, не звяртаюць увагі ні на дарожныя знакі, ні на сігналы святлафора.Такім чынам, яны падвяргаюць небяспецы не толькі сябе, але і дзяцей. Але самае шкоднае ў тым, што замест таго, каб з маленства вучыць малышоў правільна пераходзіць і пераязджаць вуліцу ці дарогу, іх вучаць парушаць правілы дарожнага руху. Не аднойчы прыходзілася гутарыць з такімі нядбайнымі бацькамі. Многія з іх разумеюць свае памылкі і, вядома, робяць вывады.

***І. КУІС, камандзір узвода дарожна-патрульнай службы групы дзяржаўтаінспекцыі Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.***

